© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 35 (1790) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 2 ВЕРАСНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.


## НАПЯРЭДАДНІ НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА

На два тыдні перад пачаткам навучальнага года рэдакцыя звярнулася да Васіля Ляшчынскага — дырэктара найбольшай у Польшчы падставовай школы з навучаннем беларускай мовы. Пытаемся аб тым, чаго могуць спадзявацца бацькі і дзеці ад перамен, якія цяпер уводзяцца ў сістэму асветы.

*„Ніва": З якім настроем увaходзіце вы ў чарговы навучальны год?*

**Дырэктар:** Без энтузіязму. Гэта выклікана імглістай сітуацыяй у асвеце: вельмі шмат невядомага, неканкрэтнага ў праграмах, у забеспячэнні падручнікамі, а асабліва ва ўмовах, у якіх маюць працаваць настаўнікі.

*„Ніва": Многія настаўнікі перад 1 верасня адчулі сябе няўпэўнена. Ва ўсіх сродках масавай інфармацыі ўзмацнілася хваля націску на верыфікацыю настаўнікаў старэйшага пакалення, што практычна абазначае адсоўванне ад працы настаўнікаў з найбольшай педагагічнай практыкай. Ці гэта вы мелі на думцы?*

**Дырэктар:** Гэта адзін бок справы, хоць вельмі балючы. Практычна гэта выглядае так: усіх настаўнікаў, якім споўнілася 55 гадоў, прымусілі адыйсці на пенсію. Тое ж самае зроблена з настаўнікамі з 30-гадовым стажам працы, а гэта значыць, што на пенсіі апынуліся людзі і ў 50 гадоў, якія пайшлі працаваць у школу, скончыўшы педагагічны ліцэй 30 гадоў назад. Гэткім чынам Міністэрства асветы стараецца ліквідаваць беспрацоўе сярод выпускнікоў вышэйшых школ. У сувязі з гэтым наша школа атрымала загад прыняць 13 новых настаўнікаў.

*„Ніва": Ці ў вашай школе, бельскай школе № 3, на пачатак навучальнага года была патрэба ў новых кадрах?*

**Дырэктар:** Не. Нашага складу хапіла б для нармальнай працы школы. Але цяпер мы вымушаны ўсіх настаўнікаў перавесці на „голы" штат, гэта значыць, даць кожнаму толькі яго мінімальны заробак. Прыкра мне як дырэктару сустракаць новых людзей, якія прыходзяць першы раз у школу і адразу з дакументам аб намінацыі, без ніякай кансультацыі з дырэктарам школы. Намінацыя падпісана беластоцкім куратарам. Дагэтуль дырэктар школы меў права асабіста камплектаваць кадры ў сваёй школе.

*„Ніва": Здаецца, гэта зусім не падыходзіць да лозунгаў аб шырокай самастойнасці і правах школы і асяроддзя!*

**Дырэктар:** Як бачыце. Я запрапанаваў некалькі маладых настаўнікаў для зацвярджэння. Але тыя, каго я папрасіў, трапілі ў іншыя школы. А вядома ж, якая спецыфіка нашай беларускай школы.



*„Ніва": А што вы можаце сказаць пра праграмы і падручнікі?*

**Дырэктар:** Цяпер настаўнік мае права паводле ўласных поглядаў змяніць 30 працэнтаў школьнай праграмы па свaім прадмеце. Можа яе скараціць, увесці нешта новае, на яго думку, вельмі патрэбнае ці актуальнае. Гэта нас цешыць. Гэта дасць нам магчымасць увесці ў праграмы ўрокаў гісторыі, геаграфіі, мастацтва, музыкі і спеву беларускую тэматыку, можна будзе расказаць дзецям аб багатым мінулым нашых продкаў, якое застаецца зусім невядомым. Старыя падручнікі зусім не падыходзяць да патрэб сённяшняй школы. Усе падручнікі. Але ўжо з падручнікамі па беларускай мове асабліва кепска. Савецкія буквары, па якіх пачынаюць вывучаць беларускую мову нашыя дзеці, зусім адарваныя ад нашай рэчаіснасці. Мне здаецца, што беларускі буквар для дзяцей у Польшчы павінен быць зроблены тут і так, як польскі, але з нашай спецыфікай, з нашай, беларускай сімволікай, з элементамі жыцця, зразумелага тутэйшым дзецям. Тое ж самае датычыць і іншых беларускіх падручнікаў.

І яшчэ адна справа. Для навучання польскай мовы ці нават англійскай, якая ўваходзіць у гэтым годзе ў падставовыя школы ад пятага класа, ёсць вялікая колькасць дадатковых дапаможнікаў — магнітафонныя касеты, фільмы відэо і іншае. Для навучання ж беларускай мовы няма, апрача гэтых няўданых падручнікаў, нічога. Такія „Каласкі" — падручнік для другога класа (І год навучання беларускай мовы) выдадзены яшчэ ў 1973 годзе, а падрыхтаваны да друку яшчэ некалькі гадоў раней. Такая актуальнасць нашых падручнікаў.

*„Ніва": Ці аб гэтых нашых патрэбах ведае куратар ці Міністэрства асветы?*

**Дырэктар:** Група дырэктараў беларускіх школ разам з паслом Яўгенам Чыквіным сустрэлася нядаўна ў гэтай справе з віцэ-міністрам асветы і выхавання Анджэем Яноўскім. Раней на Беласточчыне гасціла група паслоў Сейма. Яны былі азнаёмлены з нашымі балючымі патрэбамі. Але на гэтым справа і скончылася. Ніякага водгуку пасля іх пабыўкі не было, апрача сцвярджэння, што патрэбы нашы абсалютна законныя.

Міністр аднёсся да нашых прапаноў сардэчна. Але калі даведаўся, колькі грошай патрэбна, каб толькі залатаць нашыя фінансавыя дзіркі, проста перапалохаўся. Было вырашана, што міністэрства запрапануе стварыць камісію, якая зоймецца праграмай навучання не толькі беларускай мовы, але і беларускай гісторыі, мастацтва, фальклору, музыкі і спеву. Паводле гэтай праграмы, у школах з беларускай мовай на ўроках гісторыі, музыкі і спеву, нават геаграфіі ці іншых прадметаў, можна будзе ўводзіць беларускую праблематыку. А для гэтага будзе патрэбны спецыяльна выдадзены матэрыял з гэтай галіны, прычым на польскай мове, каб ім маглі карыстацца і настаўнікі іншых прадметаў. Ужо праведзены размовы з беларускімі гісторыкамі ў Польшчы — Яўгенам і Антонам Міранoвічамі і Алегам Латы-

(Працяг на стар. 8)



Каркас будучай гімнастычнай залы.

**ВІТАЕМ З'ЕЗД БЕЛАРУСОЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ!**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020






ЭДГАР АЛЕН ПО

# КРУМКАЧ

Неяк змрочным часам ночы, калі я заплюшчыў вочы,
Разбіраючы прарочы сэнс старых пажоўклых кніг,
Раптам стук пачуў праз стому, ціхі стук у дзверы дома,
Быццам нехта невядомы прыпыніўся каля іх.
„Гэта нейкі госць, — я мовіў, — прыпыніўся каля іх,
Там, каля дзвярэй маіх“.

Быў, я помню, снежань слотны, у каміне неахвотна
Гаснуў жар і цень дрымотны варушыўся ў зборках штор.
І чакаў я час світання, як збавення, бо чытанне
Не прынесла мне адхлання ў смутку вечным па Лінор,
Па святой, якой анёлы кажуць там цяпер: „Лінор“ —
Безымяннай тут з тых пор.

Неакрэслены, трывожны шолах штор, іх зморшчкі кожнай,
Нейкім жахам прыварожным да сябе прыкуў мой слых,
І стаяў я, спалатнелы, паўтараючы нясмела:
„Гэта нейкі госць спазнелы там, каля дзвярэй маіх,
Гэта нейкі госць спазнелы прыпыніўся каля іх,
Там, каля дзвярэй маіх“.

І сябе пераканаўшы, што там госць, і страх суняўшы,
„Сэр, — я мовіў, — або ледзі, выбачайце, што на міг
Я заснуў і вас, як брата, не пусціў адразу ў хату,
Дый пастукаліся надта ціха вы ў дзвярох маіх“ —
Дзверы я штурхнуў... нікога, толькі цемра каля іх,
Там, каля дзвярэй маіх.

Я ўзіраўся ў прадчуванні немажлівага спаткання
У ахутаны маўчаннем і цямрэчаю прастор,
Ды пачуў у непрабуднай цішы толькі водгук скрутны,
Толькі водгук ледзьве чутны слова ціхага „Лінор?“ —
Гэта я шапнуў і цемра прашаптала мне: „Лінор?“,
Прашаптала, як дакор.

І, гаруючы ад страты, я вярнуўся ў жальбе ў хату,
Як знячэўку стук зацяты зноў пачуўся і аціх.
„Так, — я мовіў, — мне не сніцца: стукнуў нехта ў аканіцу,
Трэба вызнаць таямніцу незвычайных стукаў тых.
Гэта вецер — вось разгадка таямнічых стукаў тых,
Вецер ля акон маіх“.

Ды калі акно шырока я разнасцежыў — са змроку
У пакой крумкач звячэлы, быццам прывід дзён сівых,
Увайшоў хадою цвёрдай і пратупаў з пыхай лорда
Ля мяне ў паставе гордай проста да дзвярэй маіх,
І на бюст Палады ўзбіўся там, каля дзвярэй маіх,
Ссў панура і заціх.

Чапурыстасць і паважнасць чорнай птушкі нехлямяжнай
Змусілі мяне ўсміхнуцца цераз сум: „Хоць і абдзёр
У сутычцы нейкі вораг на тваёй макушцы пёры —
Ты не страціў смелы нораў, змрочны дух начных пячор.
Як Плутон цябе мянуе ў нетрах тых начных пячор?“
Крук пракрумкаў: „Nevermore!“

Хоць адказ начнога птаха на душу мне ўпаў, як плаха,
Быў бы дзень — не меў бы страха, а цяпер — які выбор,
Калі ноч і бездарожжа, калі быццам дух варожы
Уваходзіць крук нягожы і сядае насупор
На скульптурны ўзгруд Палады, над дзвярыма, насупор,
Крук з мянушкай Nevermore.

А тым часам крук пануры знерухомеў ля скульптуры,
Бы душу ўсю ўклаў у слова страшнае, як прыгавор.
„Як сябры мае, — ледзь чутна я шапнуў, — крумкач прыблудны
Знікне заўтра ў каламутным цемрыве начных пячор,
Як мае надзеі знікне ў цемрыве начных пячор“.
Крук пракрумкаў: „Nevermore!“

Напалоханы адказам, я ачуўся не адразу
І прамовіў: „Несумненна, слова гэтае — паўтор
Скаргі нейкага нябогі, што пад гнётам лёсу злога
Праз усю сваю дарогу паўтараў, нібы дакор,
На хаўтурах мар, да скону, паўтараў, нібы дакор,
Толькі слова „Nevermore“.

Так разважыўшы, з усмешкай я на крэсла сеў без спешкі
Тварам да жудлівай птушкі, спінаю да цьмяных штор,
На падушку сеў у крэсла і задумаўся над сэнсам
Слова, што прынёс злавесны, змрочны дух начных пячор.
Што паведаміць хацеў мне змрочны дух начных пячор
Гэтым словам „Nevermore“?

Так раздумваў я ў маўчанні над прароцтвам незвычайным
Птаха, што наглядам жорсткім на мяне глядзеў ва ўпор.
У святле сядзеў няісным каганца і ненаўмысна
На падушку прыхіліўся — так мяне адолеў змор.
Ах, ніколі на падушку не прыхіліцца Лінор,
Ля мяне, о nevermore!

І, здалося, пасмы дыму паплылі перад вачыма
І за спінай серафіма павыходзілі з-за штор.
„Хлус, — я ўклікнуў. — Без сумнення, дзіўнае тваё з'яўленне
Боскі знак майго збавення ад жалобы па Лінор!
Дай мне зелля, каб забыцца, каб не помніць пра Лінор!“
Крук пракрумкаў: „Nevermore!“

„О, вястун, — я ўсклікнуў, — птушка проста ты ці д'яблаў служка!
Хай прыслаў цябе нячысты, хай прынёс цябе віхор
У бязрадны мой закутак, дзе пануе вечны смутак,
Ці пазбаўлюся пакутаў я ля Галаадскіх гор?“
Ці знайду я панацэю там, ля Галаадскіх гор?“
Крук пракрумкаў: „Nevermore!“

„О, вястун, — я ўсклікнуў, — птушка проста ты ці д'яблаў служка!
Дзеля Бога, што справуе існым ад зямлі да зор,
Адкажы душы гаротнай, ці ўзляціць яна ў зіхотны
Райскі сад да бессмяротнай, што завецца там Лінор?
Да святой, якой анёлы кажуць там цяпер: „Лінор“?
Крук пракрумкаў: „Nevermore!“

„Хай жа гэта слова стане знакам нашага расстання! —
Крыкнуў я. — Тады вяртайся, скуль прынёс цябе віхор!
І не ўздумай неўзаметку скінуць мне пяро, як сведку
Злой хлусні сваіх адведкаў, і не трэба так ва ўпор
Мне ў душу глядзець, і з бюста прэч нясі свой чорны ўбор!“
Крук пракрумкаў: „Nevermore!“

З той пары крумкач закляты, з бюста бледнага Палады
Не злятаючы ніколі, прымасціўся насупор,
Ён вачыма патарочы, соннымі, за мною сочыць
І пад лямпай цень свой змрочны, на падлозе, распасцёр,
І душой я з таго ценю нізашто цяпер да зор
Не ўзлячу, о nevermore!

З англійскай мовы пераклаў
АЛЕГ МІНКІН

„Ніва“
2.IX.1990 г.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

*Я хачу давесці да агульнага ведама, што ні часцінкі гэтага твора нельга звязваць з выпадковасцю або інтуіцыяй, што праца над ім паступала крок за крокам, ажно да завяршэння, з дакладнасцю і цвёрдай паслядоўнасцю матэматычнага доказу* — напісаў аўтар пра славутага свайго „Крумкача“ ў не менш славутым сваім эсэ „The Philosophy of Composition“. Колішнія, сучасныя Эдгару Алену По крытыкі лічылі гэты эсэ дзёрзкім літаратурным жартам, у якім экстравагантны майстра „гратэскаў і арабескаў“ дае кпліву „матэматычны“ аўтааналіз кампазіцыі „Крумкача“ і пускае пыл у вочы сваёй эстэтычнай тэорыяй. Пасля смерці Э. А. По была апублікавана заява, нібыта выказаная ім пры жыцці ў вуснай форме, дзе ён прызнаецца, што не прагне, каб ягоны эсэ трактаваць занадта сур'ёзна. Хто ведае, колькі ў гэтай заяве ад праўды, а колькі ад даніны літаратурнаму густу эпохі. Як бы там яно ні было, сёння крытыкі ставяцца да літаратурнай спадчыны гэтага амерыканца нашмат больш пачціва і сур'ёзна, чым ягоныя сучаснікі ў першай палове XIX стагоддзя. Першымі, якія належным чынам ацанілі эстэтычныя тэорыі Э. А. По, былі французскія паэты-сімвалісты: Бадлер, Малярмэ, Верлен, Рэмбо. Ацанілі і засвоілі. Бадлер і Малярмэ пераклалі По на французскую мову амаль поўнасцю: і ягоную паэзію, і прозу, і тэарэтычныя выказванні. У агульнай жа чытальніцкай свядомасці По функцыянуе перш за ўсё як аўтар „гатычных“ апавесцяў і апавяданняў пра „жахі і таямніцы“. По, як паэт і тэарэтык літаратуры, менш вядомы. Думаю, што публікацыя перакладу „Крумкача“ ў „Ніве“ з'яўляецца, па-першае, значнай падзеяй у беларускай літаратуры, па-другое — неблагой нагодай прадставіць эстэтычныя канцэпцыі амерыканскага пісьменніка. Дзеля гэтага я выбраў упамянуты вышэй эсэ „Філасофія кампазіцыі“, які разам з эсэ „Паэтычны прынцып“ складае ядро тэарэтычнай спадчыны Э. А. По.

У „Філасофіі кампазіцыі“ По дэталёва распавядае пра шлях ажыццяўлення свайго „Крумкача“. Менавіта дэталёвасць („цвёрдая паслядоўнасць матэматычнага доказу“) тэарэтычнага абгрунтавання выклікала ў ягоных сучаснікаў падазрэнне, што аўтар у глыбіні душы намерыўся паздзеквацца са сваіх чытачоў. (Заўважым у дужках, што ў часавых адносінах творчасць По прыпадае на эпоху так званага Рамантызму.) Але, як я ўжо казаў, сёння, з перспектывы мінулых літаратурных эпохаў, нельга сур'ёзна абгрунтаваць абвінавачанне Э. А. По ў „несур'ёзнасці“. У кожным выпадку, я не маю такога намеру. Наадварот, хачу прадставіць погляды По пачціва і паважна, балазе аўтар гэты заўсёды выклікаў у мяне такія адносіны да сябе.

Па-першае, справа аб'ёму твора. У паэзіі, кажа По, цэласнасць успрымання мае першаступеннае значэнне. Паэтычны твор нельга чытаць па кавалках, з перапынкамі. Гэтага эфекту татальнасці немагчыма кампенсаваць поўнасцю нейкімі паэтычнымі сродкамі. Інакш кажучы, аб'ём твора павінен быць такі, каб прачытаць яго за адзін прысяд, не адчуўшы фізічнай стомы. Гэта на пачатак. Для „Крумкача“ аўтар запланаваў сто радкоў (на справе выйшла сто восем).

Далей — эфект, якога хацеў дабіцца По. *Я ні на хвіліну не выпускаў з-пад увагі свайго намеру ўчыніць твор а г у л ь н а прымальным.* Дзеля гэтага трэба, каб *Краса была адзінай дапушчальнай сферай верша. Самая інтэнсіўная, самая ўзнёслая і самая чыстая прыемнасць заключаецца ў сузіранні прыгожага.* Такія справы, як Праўда ці Парыўнае Пачуццё (Passion), намнога лепш, паводле По, перадаюцца ў прозе. Яны стаяць у супярэчнасці з ягонай эстэтычнай канцэпцыяй паэзіі, у якой сузіранне Красы мае служыць узнёсламу хваляванню душы. Вось так.

Які т о н служыць найлепш гэтаму высокаму выяўленню? *Усё дасведчанне паказвае, што такім тонам з'яўляецца с м у т а к. Краса, незалежна ад свае натуры, у найвышэйшай сваёй*




*праяве нязменна прыводзіць чуллівыя душы да слёз. Меланхолія, такім чынам, з'яўляецца самым апраўданым з усіх паэтычных тонаў.*

Устанавіўшы аб'ём, сферу і тон верша, По задумаў дадаць яму нешта накшталт мастацкай пікантнасці, нешта накшталт лейтматыву ў канструкцыі. Дакладна перагледзеўшы ўсе паэтычныя прыёмы, аўтар выбраў р э ф р э н. Рэфрэн меў заставацца на працягу твора адзін і той самы, манатонны, але кожным разам у іншым кантэксце думкі. Гэта аўтар называе зменнасцю прымянення рэфрэну. Рэфрэн павінен быць кароткі, бо могуць узнікнуць тэхнічныя цяжкасці ў вышэй спамянёным прымяненні, калі мець дачыненне з даўжэйшай фразай. Каротка кажучы, найлепш выбраць адно слова. Рэфрэн мае заключаць кожную страфу і рабіць моцнае ўражанне, перад усім сваім гукавым афармленнем. Нічога дзіўнага, што ў ім павінна апынуцца самая гучная галосная „о“ ў спалучэнні з самай прадуктыўнай зычнай „р“ (гэта, калі мець на ўвазе англійскую фаналагічную сістэму). Калі гукі былі ўжо падабраны, жаданае слова паявілася непазбежна: Nevermore (ніколі болей). *На самай справе, гэта было першае слова, якое паявілася.*

Як апраўдаць у вершы ўжыванне аднаго і таго самага слова шмат разоў? Справа простая, калі паўтарае тое слова неразумная істота, напрыклад — птушка. Папугай падаўся аўтару занадта банальным. Крумкач — птушка благіх прадказанняў — вось адпаведны суб'ект. (Крумкачы, нароўні з папугаямі, надзелены здольнасцю вымаўляць словы.)

Далей працытуем самога аўтара: *З усіх меланхалічных тэмаў, паводле а г у л ь н а г а разумення чалавецтва, якая самая меланхалічная? Смерць — вось непазбежны адказ. А калі, пытаю я, гэтая самая меланхалічная тэма будзе самай паэтычнай? З таго, што я ўжо тлумачыў раней, адказ на гэта таксама непазбежны: Калі яна самым блізкім чынам паяднана з Красою. Дык вось, смерць прыгожай жанчыны з'яўляецца, несумненна, самай паэтычнай тэмай на свеце, а вуснамі найбольш адпаведнымі для выяўлення гэтай тэмы з'яўляюцца, гэта таксама без сумнення, вусны засмучонага каханка.* Так.

Застаецца толькі спалучыць гэтыя дзве ідэі: каханка, які плача па сваёй памершай выбранніцы, і крумкача, які ўвесь час паўтарае слова „Nevermore“. Чытач „Крумкача“, несумненна, заўважыць, што прыём, скарыстаны аўтарам у творы, настолькі фантастычны, наколькі ён і рацыянальны. Першае пытанне, на якое гучыць адказ „Nevermore“, даволі выпадковае. Наступныя — штораз менш. Зачараваны меланхалічным характарам самога слова, тлумачыць По, каханак у прымхлівым усхваляванні ставіць новыя пытанні рознага характару, адказы на якія ён носіць у сваім сэрцы, ставіць ахоплены забабонным страхам і тым відам роспачы, якая прыносіць насалоду пакутавання. Ён ставіць іх не таму, што верыць у прарочы ці дэманічны характар птаха, а таму, што адчувае шалёную прыемнасць у такім мадэляванні пытанняў, калі ад спадзяванага „Nevermore“ можна атрымаць самую пажаданую, бо самую невыносную, насалоду смутку.

Узважыўшы ўсё гэта, По вырашыў пачаць стварэнне верша ад страфы, у якой адказ „Nevermore“ выклікае ў каханка найвялікшы прыліў смутку і роспачы. Гэта шаснаццатая страфа ў вершы. Яна, тлумачыць паэт, надае клімат твора і арганізуе ўсю працу ў сэнсе рытму, метрыкі, даўжыні і паступовага нарастання „эфекту кульмінацыі“.

*Тут я магу сказаць колькі слоў пра вершаскладанне. Маім першым памкненнем (як заўсёды) была арыгінальнасць. Магчымасці рытмічнай варыяцыі верша невялікія, але затое магчымасці варыяцыі метрыкі і страфы абсалютна неабмежаваныя. І ўсё-такі на працягу стагоддзяў ніводзін чалавек не стварыў і нават не памкнуўся стварыць нешта арыгінальнае. Справа ў тым, што арыгінальнасць не бярэцца, як некаторыя мяркуюць, з парыву ці інтуіцыі. Агульна кажучы, яна мусіць быць выпрацавана, і хоць як такая з'яўляецца заслугай найвышэйшай вартасці, то дзеля яе дасягнення трэба больш адмаўляць, чым прыносіць ад сябе.*

Месца падзеі паэт назначыў у пакоі каханка. Для птушкі болей падыходзілі б лес або поле, але тут узялі верх паэтычныя меркаванні. *Заўсёды здавалася мне, што рэзкае абмежаванне прасторы абсалютна неабходнае эфекту ізаляванасці падзеі: як рамкі для карціны. Гэта, неаспрэчна, выклікае моцнае засяроджанне ўвагі, чаго аднак не належыць блытаць са звычайным адзінствам месца.*

Ноч была навальнічная — гэта тлумачыць, чаму крумкач пашукаў прытулку ў доме нешчаслівага каханка. Птах усеўся на бюсце скульптурнай Палады — гэта таму, каб быў адпаведны кантраст. Вядома ж, паміж мармурам і пер'ямі. Вобраз Палады сугучны гістарычным зацікаўленням нешчасліўца. Урэшце, слова „Палада“ няблага гучыць. Пакой застаўлены каштоўнай мэбляй. Гэтага не трэба спецыяльна тлумачыць.

І вось у так распланаваных рамках і рэгламентаваных эмоцыях адбываецца тое, што чытач ужо ведае, прачытаўшы „Крумкача“. Але: *У тэмах так распрацаваных, нават з найбольшым умельствам або з самым жывым шэрагам падзей, заўсёды выступае нейкая шурпатасць або агаленасць, якой грэбуе мастацкае вока. Нязменна патрэбны дзве рэчы — па-першае, нейкая доля ўскладнення ці, болей дакладна, адаптацыі, і, па-другое, нейкая доля ўражальнасці — нейкая скрытая плынь, што-колечы гэта ні азначала б. (...) Маючы гэта на ўвазе, я дадаў дзве заключальныя страфы — іх выгук пранікае ўсю папярэднюю апавесць.*

Такім чынам мы заключаем разгляд эсэ „Філасофія кампазіцыі“ Эдгара Алена По.

Адзін з болей сучасных нам крытыкаў назваў меркаванні По аб кампазіцыі „Крумкача“ актам самападману.

„Крумкач“ быў апублікаваны 28 студзеня 1845 года, эсэ „Філасофія кампазіцыі“ — у красавіку 1846. 30 студзеня 1847 года памерла жонка паэта Вірджынія, смяротныя пакуты якой працягваліся гадамі. Прадбачваная развязка аказваецца вечнай жалобай: Вірджынія памірае пасля гадоў страшэнных пакутаў, а каханак не мае надзеі спаткаць Лінор нават на тым свеце. „Nevermore“ сугучнае біяграфіі паэта.

Колькі слоў пра беларускі пераклад Алега Мінкіна. Ён геніяльны, што-колечы гэта ні азначала б.

Ідэальна вытрыманы метрычны памер: адмысловае перапляценне актаметра з гептаметрам і тэтраметр (каталектычны) у заключальным радку кожнай страфы. Да таго капрызная рыфма і алітэрацыі. Разоў пару перакладчык спатыкаецца на трахеічным рытме, але апрача гэтай неістотнай (і амаль незаўважальнай) хібы ўсё іншае бездакорнае. Ды хіба вытрымаеш трахеічны рытм непаваротлівай славянскай мовай?

Асноўнае ў перакладзе Мінкіна: пераўвасабленне беларускім словам таго пажаданага і невыноснага смутку, якім тхнуць радкі арыгінала. А таксама атмасферы фантастычнасці і... гратэскнасці цэлай сітуацыі. Уважлівы чытач сам ацэніць заслугі перакладчыка і паставіць яму адзнаку. Так што мне тут не трэба славасловіць папусту.

**Ян Максімюк**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




## АБ ЯНОВІЧАВАЙ „ХАЛТУРЫ НА БЕЛАРУСКІЯ ТЭМЫ“

### (ПРА КАРДЫНАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ)

Здзівіў мяне і засмуціў (ці то раз?) адначасна Сакрат Яновіч. Здзівіў сваёй некампетэнтнасцю асноўных ведаў у галіне беларускай гісторыі ды гісторыі культуры, засмуціў — беспадстаўнай лаянкай!

Яшчэ ў 1988 г. звяртаў я ўвагу рэдакцыі на шматлікія промахі С. Яновіча фактаграфічнага характару ў ягоных публіцыстычных тэкстах ці эсэ, звязаных з беларускай гісторыяй ці гісторыяй беларускай літаратуры, не гаворачы ўжо пра памылковы суб’ектыўны аналіз (а хутчэй ягоную спробу) асобных гістарычных падзей на тэрыторыі Беларусі, хібы ў абагульненнях. Другая асноўная частка маёй палемікі з Яновічам была тады апублікавана. Каб мець уяўленне аб поглядах С. Яновіча наконт беларускай гісторыі, варта нагадаць несарыентаваным чытачам, што заходнебеларускае паўстанне 1919—1925 г.г. назваў ён тады... „злачынствам“! („Ніва“, нумар 16 (1666) ад 17 красавіка 1988 г.). Не ўнікаю ўжо, што думаў тады С. Яновіч пра беларускіх партызанаў, якія змагаліся за вызваленне сваёй Бацькаўшчыны, але трэба спадзявацца, што не лепш.

І вось прачытаў я чарговую Яновічаву „Халтуру на беларускія тэмы“ („Ніва“, нумар 29 (1784) ад 22 ліпеня г.г.). Што ж „расчаравала“ і „нават раззлавала“ ў ёй так Сакрата Яновіча? Менавіта тое, што быццам бы праф. Тэлесфар Пазьняк „бескрытычна паўтарыў царска-савецкія глупствы пра г.зв. Старажытнарускую Дзяржаву“! Старажытнарускую народнасць Яновіч лічыць „пазнейшай імперскай выдумкай“! Полацкая Зямля паводле яго „ад свайго гістарычнага пачатку была незалежнай, першы раз страціўшы суверэнітэт ад Уладзіміравай агрэсіі (!) і аднавіўшы яго ў княжанне вялікага Чарадзея (...)“. Чытаючы, падумалася, чарговая скарга С. Яновіча на гісторыю?...

Я добра разумею, што С. Яновіч хацеў бы бачыць Беларусь вольнай і незалежнай яшчэ ў VI в., або ў II тысячагоддзі да нашай эры, аднак гісторыя зрабіла Яновічу небывалы сюрпрыз: Беларусь (тады яшчэ частка Русі) апынулася ў Старажытнарускай Дзяржаве (інакш Кіеўскай Русі), а беларусы (тады яшчэ русіны або рускія, хоць і не сённяшнія рускія) насуперак думкаў Яновіча склалі „імперскую выдумку“ — старажытнарускую народнасць!

Што гэта? Звычайнае невуцтва С. Яновіча ці наўмыснасць?!... Задобра аднак ведаю С. Яновіча, каб сумнявацца ў мэтазгоднасці падтасоўкі фактаў. Што ж, палітыка і навука па сваёй натуры бываюць рэчамі супрацьлеглымі, хоць і тут не абыходзіцца без гвалтаў! Не трэба ж спецыяльна сіліцца, каб перакуліць тэорыі Яновіча адносна быццам бы цалкавітай незалежнасці Полацкай Зямлі ад Старажытнарускай Дзяржавы ці існавання беларусаў як сфармаванай нацыі ў IX ці X ст. і то спасылаючыся на фундаментальныя вынікі даследаванняў якраз „найноўшых“ беларускай „палітыкі і культуры“, нават не „царскіх“ і не „савецкіх“, хоць яшчэ і не заходнееўрапейскіх, але польскіх.

Хопіць пачытаць грунтоўныя працы перш за ўсё польскага гісторыка Генрыка Лаўмянскага, каб перакапацца, што Яновіч абсалютна не мае рацыі. Маю тут на ўвазе ягоны фундаментальны том „Studia nad dziejami Słowiańszczyzny, Polski i Rusi w wiekach średnich“, выдадзены ўсяго некалькі гадоў таму назад, у 1986 г., універсітэцкім выдавецтвам у Пазнані. У II раздзеле „Генезіс славянскіх дзяржаў“ на стар. 81 чытаем там: „Kijów dostarczył modelu państwowego dla północnych ośrodków wschodniej Słowiańszczyzny, a przede wszystkim dla Słowenów (którzy założyli następnie Nowogród) oraz dla Połocka. Zorganizowanie tam aparatu państwowego przypada na drugą połowę IX w.: wszystkie one, podobnie jak ogół plemion wschodniosłowiańskich, podporządkowały się władztwu kaganów kijowskich, w czym widzimy dowód, że cała ta grupa plemion stanowiła pewną ściślejszą całość etniczną zżytą z sobą i kulturowo sobie bliską jeszcze przed uformowaniem ośrodka państwowego w Kijowie”.

Надзвычайнае значэнне для беларускай гістарычнай навукі мае раздзел выдатнага польскага вучонага „Фармаванне рускіх зямель“ (раздзел V), а ў ім падраздзел „Генезіс полацкай зямлі“. На стар. 475 чытаем у ім: „Mimo separatystycznych tendencji w stosunku do ruskiego systemu politycznego w XI—XII w., Połock utrzymywał najwidoczniej ścisłe kontakty z Kijowem w okresie formowania się państwa ruskiego i w oparciu o pomoc kijowską wprowadzał porządek państwowy na własnym obszarze. Do tego zagadnienia znajdujemy następujące wskazówki źródłowe; w związku z wyprawą Olega na Carogród, opisaną pod 907 r., „Powieść doroczna” donosi o zobowiązaniu Greków do wypłacania trybutu poszczególnym grodom ruskim podległym Olegowi. Wykaz tych grodów, wśród których figuruje i Połock, zdradza cechy archaiczne, toteż nie możemy zgodzić się z poglądem, jakoby został zmyślony przez redaktora „Powieści dorocznej”. (...) Jest tu reprezentowany stan rzeczy, kiedy „droga z Waregów do Grecji” nie stanowiła tak ważnej jak później magistrali, kiedy najwidoczniej nie istniał jeszcze ważny ośrodek nowogrodzki, a szlak znad Dźwiny do Kijowa biegł przez Połock i Witebsk, a następnie Łuczesą i przez Orszę z ominięciem Smoleńska, który nie trafił do wykazu. Otóż wzmianka o Połocku świadczy, że ten gród rozwijał działalność **w oparciu o Kijów**, stanowił **ośrodek sprzymierzony** (podkreśl. moje, — J. T.). „Powieść doroczna” nadmienia nawet, że w owych grodach przebywali „wielcy książęta” podlegli Olegowi”.

Як жа ў той час мог развівацца сённяшні рускі (расійскі) народ, калі пра Ноўгарад яшчэ не было ні слыпу ні дыху?... Ці С. Яновіч, калі-небудзь задумаўся над гэтым? Дзе ж тады быў падзеўся трэці ці паводле Яновіча першы цэнтр?!

Далей Лаўмянскі прыводзіць тапанімію, якая выдатна сведчыць пра сувязі Полацка з Кіевам, а заадно і існаванне Старажытнарускай Дзяржавы.

„Tak więc powołanie przez Połoczan księcia wareskiego zza morza nie podważyło jeszcze współdziałania połocko-kijowskiego. Zerwanie nastąpiło dopiero później — po utrwaleniu aparatu państwowego nad Dźwiną z jednej

(Працяг на стар. 6)

## САКРАТ ЯНОВІЧ ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

— 10 —

У кавярні старога менскага места пяруном з яснага неба прыбіла мяне рэфлексія, што насельніцтва Беларускай ССР амаль не павялічваецца (добрую каву даюць там, праўвятляе мазгі). Пасляваенная Польшча мела крыху больш, чым у два з паловай разы ў сябе людзей, а цяпер у ёй хутка будзе — у чатыры ў параўнанні з Беларуссю. Што гэта робіцца з нашым народам? Адказ і на гэтае пытанне я зноў пашукаў у нашым Беластоцкім Краі. У ім ідэнтычнае беларускае паміранне, з той розніцай, што ў польскую карысць. Ну, але мы невялікая меншасць, якую Варшава ледзь прыкмячае. Там жа — цэлая рэспубліка, трэцяя па сваім значэнні пасля Расійскай і Украінскай.

Напэўна маем дачыненне з масавай эміграцыяй у прамысловыя цэнтры Саюза. На першы погляд гэтая з’ява даволі незразумелая, калі памятаць пра тое, што горш жывецца якраз у Расіі і на Украіне. У іх, аднак жа, лягчэй знайсці працу. Слабую то слабую, але ўсё-такі больш даступную. Беларускае беспрацоўе, выяўляецца, не апошняй даты (асабліва ў інтэлігентных прафесіях). Справа ў тым, што імперыя не любіць інвестыцыяў на ўскраінах. У ёй дамінуе ваенны склад думкі. Беларуская ССР для яе — гэта прыфрантавая зона. Таму найлепей тут лакалізаваць... бранетанкавыя і ракетныя базы, якіх густа на Гарадзеншчыне ды Брэстчыне (амерыканскія „спутнікі“ абфатаграфавалі іх дакладнюсенька, палічыўшы нават колькасці баявых адзінак). Насычанасць войскамі ды тайнымі службамі! Гэта мусіць уплываць на пашырэнне асадных настрояў і мацаванне палітычнага кансерватызму (дадатковая прычына мізэрнасці „перестройки“ ў такой Антыбеларусі). Лёс гэтага нацыянальнага арэалу, як аніводнага іншага ў СССР, вельмі непасрэдна залежыць ад развіцця сітуацыі ў Еўропе. Калі накіруецца яна канчаткова ў мірны бок, Беларусь адагнецца і выпрастаецца на ўвесь свой рост: варшаўска-мінскі паходны напрамак на Смаленск і Маскву страціць рацыю быту.

Ключ да эмансіпацыі Беларускага Народа ляжыць не ў Мінску, а ў Крамлі. І ўжо не ў руках ён федэральнага прэзідэнта Гарбачова. Трымае яго, можа быць і сам аб тым не ведаючы, менавіта Ельцын, прэзідэнт Расіі. Гэтая найвялікая рэспубліка агледзелася, нарэшце, што ёй гарбом на плячах увесь дагэтуляшні Савецкі Саюз. Трэба, каб кожная з пятнаццаці ССР жыла на ўласны рахунак, без братняй дарэмшчыны. Няма сумненняў, што так станецца, бо расіянам даўно няма куды адступаць. Бядней за іх ніхто не маецца ў Савецкай Дзяржаве, а ў Еўропе могуць раўняцца яны з румынамі і албанцамі.

У сувязі з тым вее палітычным камізмам ад заруселых беларускіх мас. Беларуская ССР у іхнай свядомасці накшталт колішняй „Западной России“ з генерал - губернатарствам. Ім няўцям, чаму гэта Расія адкалваецца ад „почти русских“ над Нёманам, Прыпяццю, Дзвіною і Дняпром!? Як жа нам быць без яе? — круглеюць вочы. Польшча нас захопіць! Або і Літва, хоць утрая меншая... Беларусы, як той салдацкі авёс, які косяць наступаючыя чужацкія эскадроны. Цяпер ім дзіўна, што суседзі прымушаюць іх устаць на свае ногі.

**(Працяг будзе)**



*Наша Беласточчына, не надта багатая месцамі адпачынку над вадою, можа пахваліцца цудоўным пляжам у Бахматах, што ў некалькіх кіламетрах ад Дубічаў-Царкоўных. Чыстая вада, дагледжаны загаспадараны пляж, пазычальня лодак і водных веласіпедаў ды яшчэ кіёск з напіткамі і закускамі ствараюць добрыя ўмовы для адпачынку.*

*Фота Я. Чэрнякевіч*

### ШТО МОЖА Ў НАС ПАЛІЦЫЯ?

Гэтае простае пытанне апошнім часам з вуснаў у вусны перадаецца ў Бандарах. І ніхто не можа даць сэнсоўнага адказу. А ён напрошваецца сам: нічога.

Вось нядаўна, як расказваюць людзі ў Бандарах, другі ўжо раз на працягу аднаго месяца злачынцы ўзламалі замкі ў вясковай краме. (Дарэчы, у тую ж ноч такія ж узломы былі сцверджаны ва ўсе крамы ў ваколіцы). Зладзеі паводзілі сябе так нахабна, што стукат і грукат пачулі жыхары блёкаў на адлегласці каля 300 метраў і паведамілі паліцыю. Тая з’явілася амаль адразу. Зладзеі кінуліся ўцякаць. Паліцыянт прабаваў дагнаць, нават стрэліў, праўда, у паветра, прабуючы затрымаць злачынцаў. Не ўдалося.

Людзі расказваюць, што нібыта паліцыянт нават пазнаў злодзея. Але пракурор не арыштаваў яго. Дзівяцца людзі, што гэта для пракурора не доказ. Ці ж ён не верыць працаўнікам паліцыі? Злодзея, кажуць, трэба затрымаць або сфатаграфаваць.

— З фотаапаратам трэба каб паліцыя поначы бегала, — смяюцца людзі. — А зладзеі далей гуляюць на волі.

— Як жа ж можна змагацца са зладзействам, калі ў сённяшняй, новай паліцыі няма ніякіх праваў? Яна зусім безуладная, бясправная, са звязанымі рукамі.

Ці ж гэта не так?

(яч)



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




(Працяг са стар. 5)

strony, a z drugiej po umocnieniu związków Nowogrodu i Smoleńska z Kijowem; Połock zaś rywalizował o tereny krywickie zarówno z Nowogrodem, jak ze Smoleńskiem, a zarazem toczył walkę o kontrolę nad szlakami handlowymi, które łączyły brzegi Bałtyku z Kijowem".

Дык прычым тут Яновічавы „царска-савецкія глупствы" пра Старажытнарускую Дзяржаву, бязглуздасць, выказаная, ажно не верыцца, словамі як-ніяк сярэдняга класа беларускага пісьменніка?... Татальная крытыка аднаго з найлепшых у польскім літаратуразнаўстве нарысаў пра беларускую літаратуру ад самага пачатку яе існавання? Тым больш, што Аўтар не абмінуў у ім ні беларускай эміграцыйнай літаратуры (упершыню такое здарылася ў польскім друку), ні таксама Яновічавай творчасці, а заадно і ўсёй „Белавежы"!

Не буду далей спрачацца з С. Яновічам наконт існавання ці неіснавання старажытнарускай народнасці, бо калі ж існавала першая раннефеадальная дзяржава ўсходніх славян Кіеўская Русь, што склалася ў другой палове IX ст. у выніку аб'яднання зямель усходнеславянскіх (палян, драўлян, севяран, радзімічаў, крывічоў, дрыгавічоў, ільменскіх славен, вяцічаў, валынян, дулебаў, ціверцаў, улічаў, белых харватаў і іншых) і некаторых неславянскіх плямён, дык вядома ж, што ў выніку гэтага аб'яднання і склалася адзіная старажытнаруская народнасць, сведчаннем чаго з'яўляюцца эканамічныя сувязі, адносная тэрытарыяльная, палітычная, этнічная, культурная і моўная агульнасць, у чым не сумняваюцца такія выдатныя польскія гісторыкі, як Ежы Ахманьскі ці Людвік Базылёў. З беларускіх пацвярджае гэта Мікола Ермаловіч.

Што датычыць княжацкіх міжусобіц, дык былі яны і раней. Інакш усходнія славяне не запрасілі б да сябе на Русь варагаў са Скандынавіі на чале з Рурыкам у 862 г. з прапановай узяць у ёй уладу, пра што можна даведацца з першага агульнарускага летапіснага зводу „Аповесці мінулых гадоў".

Кіеў быў зруйнаваны манголамі ў снежні 1240 г., а гэта значыць ужо тады, калі Кіеўская Русь пасля смерці Мсціслава Уладзіміравіча (княжыў у Кіеве ў 1125—1132 г.г.) у выніку росту яе састаўных частак распалася на самастойныя княствы. Такі працэс у перыяд феадалізма быў характэрны для шматлікіх краін Еўропы, у тым ліку Нямеччыны і Польшчы. Дык прычым тут абвінавачваць Ноўгарад ці Полацк у тым, што не памог Кіеву ў ягоным змаганні з татарамі. Кіеўскае княства лічылася тады адным з самастойных дзяржаўных утварэнняў.

У палеміцы з С. Яновічам я засяродзіўся на адным з кардынальных пытанняў беларускай гістарыяграфіі — узнікненні першай раннефеадальнай дзяжавы ўсходніх славян Кіеўскай Русі (хоць былі і ранейшыя Антаў — III—VII ст. і Куявіян — VIII—IX ст.). Меней кідкія хібы мяне не цікавяць. Вядома, С. Яновічу ніхто не можа забараніць выказаць свой погляд на беларускую гісторыю ці гісторыю беларускай літаратуры. Пажадана аднак было б, каб выказваў яго з адпаведнай кампетэнцыяй і ў больш культурнай форме. А напэўна ж заслугоўвае гэтага раздзел пра беларускую літаратуру ў шматтомным выданні „Dzieje literatur europejskich" выдатнага даследчыка гісторыі ўсходнеславянскіх літаратур праф. Тэлесфара Пазьняка.

Юры Трачук



(Заканчэнне.

Пачатак у папярэднім нумары)

26 чэрвеня а шостай гадзіне раніцы „Васілёк" са сваімі касцюмамі ладуецца ў аўтобус. Перад ім няблізкае падарожжа: найперш Полацк, пасля Вільня, Гародня. Каля радыёкамітэта аўтобус падбірае „Жывіцу" з яго інструментамі, едуць таксама нашы басаўцы, прадстаўнікі таварыства „Радзіма", ды й прадстаўніка „Нівы" кіруючы групай Анатоль Абрамчык таксама прымае ў гэту кампанію. Дарога ў Полацк была б даволі манатонная, каб не лопнула калясо і на вымушаным прыпынку не давялося б скаштаваць грыбнога супу і дранікаў вырабу Валянціны Пархоменка — лідэра „Жывіцы". Нават ніхто не пераняўся тым, што здарылася. Пад'еўшы і патанцаваўшы на лясной паляне, усе паехалі далей, як толькі шафёры аўтобуса памянялі кола.

У Полацк заехалі даволі позна, а вечарам жа — выступленне, няма калі аглядаць помнікі даўніны. Усё ж такі ўпрашваем нашага экскурсавода з Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка, каб паказала нам сёння хаця Спаса-Ефрасіннеўскую царкву. Яна робіць гэта для „Васілька". Адкрываюць царкву і мы ўваходзім у сярэдзіну. У вачах амерыканскай моладзі захапленне. Гэта ж падумаць, помнік культуры аж з XII стагоддзя! Не досыць, што ў Амерыцы наогул такіх помнікаў няма, дык яшчэ і беларускі, іх, родны. З зацікаўленнем аглядаюць яны рэшткі унікальных фрэсак. Так, працы для рэстаўратараў тут непачаты край. І грошай, неабходных дзеля гэтага, таксама не злічыць.

Едучы ў Полацк, мне вельмі хацелася пахваліцца беларускім музеем кнігадрукавання імя Францішка Скарыны, які паўстае ў Полацку. Усё ж такі туды трапіла ўсё каштоўнейшае з бібліятэкі майго бацькі. Аднак жа экскурсавод паведамляе нам, што ствараецца такі музей, але адкрыццё будзе толькі ў пачатку верасня. Вельмі ўцешылася і я, і яна, што вось мы тут, у гэтым аўтобусе сустрэліся, і дадала з мілай усмешкай, што ў асноўным абаперліся яны на кніжкі, якія на працягу многіх гадоў былі зместам жыцця майго бацькі. Сафійскі сабор, дзе сёння месціцца Полацкі гісторыка-археалагічны запаведнік, удалося агледзець толькі звонку, ды і то толькі на другі дзень раніцай (ізноў выпрасіла моладзь), бо спяшаліся ў Вільню. Валік Сельвясюк крыху расказаў пра яго.

Вільня — гэты ладны кавалак беларускай гісторыі — уразіла амерыканскіх гасцей. „Ніколі не думала, што Вільня такая прыгожая", — сказала Вера Бартуль. Групка людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі хадзіла па Вільні сцежкамі Скарыны, „нашаніўцаў", Купалы, Гарэцкага, Шырмы, наведала магілу Кастуся Каліноўскага і ўпрыгожыла кветкамі табліцу былога дамініканскага манастыра, у якім сядзелі паўстанцы 1863 года, у тым ліку і Кастусь Каліноўскі (крыўду выклікаў надпіс: „Костас Калінаўскас". Божа, як лёгка людзі прысвойваюць сабе чу-



У Спаса-Ефрасіннеўскай царкве.

# 10 ДЗЁН, ЯКІЯ ЎСКАЛЫХНУЛІ СЭРЦЫ

Яўгенія Шымчук

## СТАНОВІШЧА БНР НА МІЖНАРОДНАЙ РАЭНЕ

(Заканчэнне.
Пачатак у №№ 31 і 33).

Дэлегатам БНР у Парыжы даводзілася выступаць і супраць некаторых дзеянняў Літоўскай Рэспублікі. Літоўскія дэлегаты на канферэнцыі распаўсюджвалі карту, на якой Літва займала не толькі цэлую Віленскую, але і Гродзенскую губерню, уключна з Беластокам і Бельскам, нічога не гаворачы, што насельніцтва гэтых зямель у большасці беларускае. Гэта выклікала зразумелы пратэст беларусоў.

Звонкім рэхам адбівалася на дзейнасці беларускай дэлегацыі палітыка польскіх уладаў у адносінах да беларускай зямлі. Калі толькі польскія войскі сталі займаць Беларусь, беларусы ў Парыжы пратэставалі супраць акупацыі. 8 мая 1919 г. быў прадстаўлены старшыні канферэнцыі пратэст, падпісаны А. Луцкевічам і В. Захаркам.

Але А. Луцкевіч прабаваў навязаць супрацоўніцтва з тымі польскімі прадстаўнікамі, якія схіляліся да ідэі федэрацыі. Ідэю гэтую падтрымоўваў Ігнацы Падарэўскі. Ён нават у 1917 г. апрацаваў план Злучаных Штатаў Польшчы. Беларускія землі ён прапанаваў назваць Каралеўствам Палесся. У Парыжы гэтая ідэя аджыла ў размовах з А. Луцкевічам. Быў нават апрацаваны праект польска-беларускага дагавору, які прадбачваў стварэнне Саюза Дзяржаў Польскай і Беларускай па прынцыпу поўнай роўнасці.

Гэтыя прыхільныя адносіны І. Падарэўскага да беларусаў і актыўнасць А. Луцкевіча выклікалі трывогу польскіх уладаў, якія вялі палітыку інкарпарацыі, зусім іншую ад абвешчанай Пілсудскім у адозве „Да жыхароў Вялікага княства Літоўскага". Таму пад прэтэкстам больш канкрэтных перагавораў, А. Луцкевіч быў выкліканы ў Варшаву. Тут высветлілася, што ніхто нічога не ведае, а міністр І. Падарэўскі выехаў зноў у Парыж.

Прыехаўшы ў Польшчу, А. Луцкевіч 28 жніўня 1919 г. перадаў функцыю старшыні дэлегацыі БНР палкоўніку Я. Ладнову. Паўнамоцтвы Ладнова пацвердзіла і новая Рада БНР, якая паўстала пасля расколу ў старой Радзе 13 снежня 1919 г. Я. Ладноў быў выбраны міністрам замежных спраў ва ўрадзе В. Ластоўскага і 15 снежня 1919 г. атрымаў загад прадаўжаць сваю дзейнасць. Спраба-

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



*Кветкі Кастусю Каліноўскаму.*

жых герояў!). Нехта сказаў з тратуара: „Смотри, белорусы идут!“.

Вадзіў гасцей па Вільні не абы-хто, а сам сын Антона Луцкевіча Лявон. Каму ж, як не яму, і ведаць так усе беларускія сляды ў Вільні! Дапамагала яму дабраахвотна заядлая, маладая беларуска з іхняга ТБК Людміла Кардзіс. Аж з Эстоніі на сустрэчу прыехаў Уладзімір Дзехцярук, старшыня Кохтла-Ярвескага беларускага культурнага таварыства.

Для змучаных яшчэ перад выступленнем гасцей, віленскія беларусы наладзілі цудоўны банкет. На спецыяльнае жаданне Веры Б. (да якога далучыліся і іншыя) прынеслі нават пахучую капусту. Пра ўсё клапаціўся найбольш Хведар Нюнька — старшыня Таварыства беларускай культуры ў Вільні.

Пасля вячэрняга выступлення — ад'езд у Гародню. А ўсё жтакі ў Вільні гледачоў на канцэрце сабралася менш, як у іншых месцах...

У Гародні раніцай адразу званю Данунце Бічэль-Загнетавай. „Ада, — перажывае яна, — уначы прыехаў Сяржук Сокалаў з хлопцамі, а ў мяне ў хаце толькі яйкі!“ Кажу, неяк пераб'ецеся і з тымі яйкамі, а ў думках удзячная сваякам з Мінска, якія ўсунулі мне на дарогу ладны кавалак вясковай шынкі, мінскага хлеба і агуркоў...

І факт, усё прыдалося ўначы, калі пасля выступленняў (з нязвыклым уздымам у Палацы юнацтва) і вячэры ў гатэльным рэстаране Сяржук з Валодзем павезлі нас да Дануты. Нас, гэта значыць Веру і Аню Бартуль, пару хлопцаў-басаўцаў, бэнэфаўку Тоню Емяльянаву, ну, і мяне. Недзе ў халадзільніку наша славутая паэтка знайшла яшчэ кавалак мяса, якое падсмажыла на радасць нам усім, ды нават паспела зварыць бульбу. Вера і хлопцы паклапаціліся пра слушнае пітво. Сяржук з Валодзем умілялі нам вечар сваімі патрыятычнымі спевамі. Цяжка было мне прабіцца з чытаннем уголас Данусіных і Караткевічавых вершаў... На развітанне Данута падпісвае мне і Веры сваю апошнюю кніжку „А на Палессі“. Вяртаемся ў гатэль а пятай раніцы.



*Каля Вострай Брамы.*

Яшчэ па дарозе назад у Мінск „Васілёк“ заскаквае ў нядаўна адкрыты музей Ф. Багушэвіча ў Кушлянах... Гэта ж усё сваё, беларускае.

Дзесяць дзён — час невялікі. Але ўбачыць „Васільку“ на Беларусі давялося нямала. Наведалі зямлю сваіх продкаў, зямлю старую як свет і шматпакутную. Былі і ў Курапатах, і ў Хатыні, а ў майстэрні мастака Міхася Савіцкага ўбачылі на яго палотнах, як жывую, сённяшнюю „Чорную быль“. Здавалася б, чаго гэтым людзям трэба? Гэта ж людзі стабільныя ў жыцці, адны з іх даўно прыжыліся ў Амерыцы, а другія, тая большасць якраз, ужо і нарадзіліся там. Маюць цікавыя прафесіі, сваё асяроддзе. Навошта ім тыя танцы і песні? Навошта шукаць на старой зямлі свае карэнні? Ды й наогул, што ім дае тое імкненне да беларускасці?

А я думаю так, што гэтая беларускасць — папараць-кветка, а шуканне яе дае ім шчасце і стымул да жыцця. Пра гэту іхнюю папараць-кветку, магчыма, удасца мне расказаць больш, калі бліжэй пазнаёмлюся з іх штодзённым жыццём у Амерыцы.

**Ада Чачуга**

**Фота Святаслава Крыцкага**



*Пасля канцэрта ў Вільні.*

---

ваў вярнуцца ў Парыж і А. Луцкевіч. І хаця ён прадстаўляў прапольскую арыентацыю ў беларускім руху, польскае міністэрства замежных спраў адмовілася даць яму дыпламатычную візу (хаця ў жніўні яму такую дало).

У Парыжы да Ладнова далучыліся Кандратовіч, Азнобічын і Баркоў.

11 сакавіка 1920 г. Я. Ладноў як старшыня дэлегацыі прадставіў Радзе паслоў пратэст супраць акупацыйнай палітыкі Польшчы на Беларусі. Ён прадставіў рэестр дзевятнаццаці (19) фактаў, даказваючых несправядлівасць і жорсткасць палітыкі польскіх улад. Звярнуў увагу, між іншым, на:

— немагчымасць выконваць свае функцыі Радай БНР;

— арыштаванне сяброў Рады;

— праследаванне беларускіх партый;

— патрабаванне ад непісьменных сялян дэкларацый, што яны палякі;

— закрыццё беларускіх школ;

— закрыццё грэка-каталіцкіх цэркваў;

— забарона выдавання беларускіх газет і часопісаў.

Я. Ладноў дамагаўся вызначыць міжнародную камісію, якая праверыла б дзеянні польскіх улад.

Рада паслоў, праўда, не стварыла такой камісіі, але дамагалася ад польскіх улад выясніць гэтыя справы. Зразумела, польскі бок прабаваў даказаць, што ўсе гэтыя абвінавачванні непраўдзівыя. Пратэставаў Я. Ладноў, калі пачаліся польска-савецкія перагаворы ў Мінску, а потым у Рызе, а таксама пасля падпісання 12 кастрычніка 1920 г. прэлімінарыйнага дагавору, які бяспраўна дзяліў Беларусь. Адмяніць ход падзей беларускія дэлегаты не змаглі.

11 мая 1921 г. Я. Ладноў быў афіцыйна пазбаўлены функцыі міністра замежных спраў БНР і старшыні беларускай дэлегацыі ў Парыжы. Прычынай быў пераход Ладнова на палітыку пагаднення з Польшчай.

І так закончылася акцыя БНР на Парыжскай канферэнцыі. Якія былі яе вынікі? Думаю, галоўная справа ў тым, што першы раз у гісторыі пачуўся голас вольнай Беларусі на такой шырокай міжнароднай арэне. Для многіх, асабліва заходніх палітыкаў, гэта было чымсьці нечаканым. Ніколі дагэтуль не чулі пра беларусоў, так як не чулі пра эстонцаў, латышоў, украінцаў. А аказалася, што гэта народы з багатай гісторыяй і культурай. Прысутнасць прадстаўнікоў беларусоў у Парыжы даказвала, што яны не хочуць быць толькі пасіўным прадметам барацьбы паміж Масквой і Варшавай, што хочуць самастойна вырашаць свой лёс. І хаця не была беларускімі дэлегатамі дасягнута галоўная мэта — гэта значыць прызнанне дзяржавамі Антанты незалежнасці і суверэнітэта БНР, турботы іх не пайшлі прахам. У тагачаснай палітычнай сітуацыі гэта яшчэ не было магчыма. Урад БНР прабываў ужо на эміграцыі, так што не выконваў эфектыўнай улады на Беларусі. Частку беларускіх земель заняло польскае войска, якое адыгрывала важную ролю ў антысавецкім фронце, мантаваным дзяржавамі Антанты. Моцную пазіцыю займала ў Парыжы Расійская палітычная канферэнцыя, якая не дапускала думкі аб падзеле былой Расіі. У такіх умовах цяжка было дабівацца поспехаў. Але адно засталося. Ні Савецкі Саюз, ні Польшча не маглі зусім ігнараваць (як гэта рабілі раней) правы народа, які ўсяму свету абвясціў свае мары і імкненні.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# НАПЯРЭДАДНІ НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА

(Працяг са стар. 1)

шонкам. Кожны з іх згадзіўся хутка падрыхтаваць матэрыял пра эпоху, якой займаецца. Гэты новы падручнік павінен стаць дапамогай для настаўнікаў гісторыі ва ўсіх класах — ад першага класа пачатковай школы да чацвертага класа ліцэя. Падручнік гэты будзе запрапанаваны таксама гісторыкам усіх школ, паколькі датычыць будзе фактаў па гісторыі польска-беларускага пагранічча.

Аб канкрэтных новых праграмах і хто мае гэтым заняцца ў бліжэйшы час будзе гаварыцца на канферэнцыі настаўнікаў-беларусістаў.

На сённяшнім этапе нашага палітычнага жыцця ўсім настаўнікам, асабліва беларусістам, патрэбна шырокая кансультацыя і дапамога канкрэтным матэрыялам. Мне здаецца, што такога роду пляцоўка можа быць створана на базе беларускіх ліцэяў. Былі б гэта беларускія цэнтры з бібліятэкамі і багатымі камплектамі дапаможнікаў. Сёння ўсім нам гэтага не хапае.

*„Ніва": А якая ваша думка наконт увядзення ў школу ўрокаў рэлігіі?*

**Дырэктар:** Для нашай школы, дзе больш 90 працэнтаў дзяцей праваслаўных, гэта меншая праблема, чым для іншых школ. У нас горшая справа з месцам для навучання рэлігіі. На 38 класаў у школе ёсць толькі 16 класных пакояў. Дзеці і так вучацца на змены да 18-ай гадзіны вечара. Увесці дадатковыя гадзіны рэлігіі — гэта яшчэ больш прадоўжыць рабочы дзень школы. Я ўжо правёў першыя размовы з настаяцелямі цэркваў (тры царквы знаходзяцца ў вельмі блізкім суседстве са школай), каб заняткі па рэлігіі далей адбываліся пры цэрквах. Думаю, што ўдасца прыйсці ў гэтым да згоды.

*„Ніва": А ці вы не спадзяецеся ў сувязі з гэтым яшчэ большага напору дзяцей у вашу школу? Ці не будуць прабаваць бацькі праваслаўных дзяцей шукаць у вас паратунку ад нетaлерантнасці і рэлігійнай нецярпімасці? Дзеці ж не палітыкі. Яны не прамінуць заўважыць іншасць свайго калегі па класе.*

**Дырэктар:** Гэта вельмі сур'ёзная праблема. І толькі час пакажа, што з гэтага можа выйсці. Што ж да напору вучняў на нашу школу, дык мы яго ўжо маем і па іншай прычыне. У сувязі з моцна ўзрослымі аплатамі за прадшколлі, бацькі вырашаюць аддаваць шасцігодкаў у нулявы клас. А гэта для нас ужо праблема. Калі ж гаварыць аб асобных школах для праваслаўных, дык у Бельску трэба было б утварыць яшчэ мінімум дзве такія школы.

*„Ніва": А як выглядаюць сёння вашы кантакты з Беларуссю?*

**Дырэктар:** Скажу вам шчыра: што ж гэта за беларускае выхаванне ў нас? За свае 17 гадоў працы ў школе я з вучнямі даслоўна стаптаў усю Польшчу, але ані разу не быў у вандроўцы па Беларусі. Здараюцца ў нас выезды дзяцей на Беларусь, але адбываецца гэта без ніякай філасофіі. Вось хоць бы цяпер. За вынікі ў конкурсе „Беларуская песня" для школьнікаў выслалі на Беларусь калектыў „Жучкі". Дакументы на выезд атрымала 11 чалавек, а ў калектыве іх 16. Усе граюць і спяваюць. Каго пакінуць дома? Або — дзіцячы калектыў з Кляшчэляў атрымаў чатыры месцы. А іх жа там каля дзесятка. Ды едуць яны без сваіх мастацкіх кіраўнікоў, з нейкімі выпадковымі апекунамі. Нешта тут не так арганізавана.

*„Ніва": Вернемся да вашай школы. Як школа гатова прыняць вучняў?*

**Дырэктар:** Сёлета ў нас вялікіх рамонтаў не было. Падмалявалі трошкі падлогі, адсвежылі школу.

*„Ніва": А што з пабудовай гімнастычнай залы? Дзе вучні будуць займацца гімнастыкай?*

**Дырэктар:** Справа гэта для нас надта балючая і складаная. Гімнастычнай залы ў нас наогул няма. На былой спартыўнай пляцоўцы пастаўлены ўжо каркас новай гімнастычнай залы. Укладзена ў гэта шмат грошай, сабраных ахвярнасцю жыхароў Бельска. Нямала і дзяржаўнай дапамогі. Але цяпер, у шалеючай інфляцыі, мы засталіся без граша. Для заканчэння пабудовы патрэбны 2 мільярды злотых па сённяшніх цэнах. Да канца гэтага года, за апошнія чатыры месяцы мы гатовы рэалізаваць 1 мільярд злотых, каб замкнуць будынак. Ёсць фірмы, якія зрабілі б гэта ўжо цяпер. Але няма грошай. Мы не маем сродкаў нават на загаспадаранне спартыўнай пляцоўкі на новым месцы.

*„Ніва": Як вы бачыце супрацоўніцтва настаўнікаў-беларусістаў з намі, з „Нівай"?*

**Дырэктар:** Думаю, што настаўнікі значна шырэй, чым дагэтуль, могуць карыстацца матэрыяламі з вашай газеты. Школьнае права цяпер дае ім на гэта больш часу і магчымасці. Лічу, што кожны вучань павінен чытаць „Ніву" і „Зорку", а настаўнік падкажа яму, на які матэрыял ён павінен звярнуць большую ўвагу. Найпрацей было б для нас, каб кожны нумар „Нівы" быў непасрэдна давезены ў нашу школу. У нас жа 1100 вучняў! Няўжо ж не апладціліся б?

*„Ніва": Сапраўды варта падумаць. Дзякую вам за шчырую размову і добрыя парады.*

Размову вяла
**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**




**ЦУКІНІЯ З ГАРОДНІНАЙ**

На 40 дэкаў цукініі трэба ўзяць 3 цыбуліны, 30 дэкаў салодкай папрыкі, 1—2 стручкі вострай папрыкі, 1—1,5 кг памідораў, 10—15 дэкаў алею, 6 зубкоў часнаку, 30 дэкаў пораў, соль і перац, 4 лыжкі пасечаных лісткоў зялёнага сэлера, 3 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Цукінію памыць, нарэзаць даволі тоўстымі скрылёчкамі або слупкамі, пасыпаць крыху перцам і падсмажыць на разагрэтым алеі, пасаліць. Ачысціць поры, памыць іх, дробна нарэзаць. Абабраць і нарэзаць тоненькімі пер'ямі цыбулю. Памыць папрыку, выняць з яе семечкі, нарэзаць кружкамі. Дадаць крыху вострай папрыкі, якую трэба парэзаць разам з семечкамі. Цыбулю і поры перамяшаць з папрыкай, пасаліць, тушыць некалькі мінут з тлушчам і пасечаным часнаком, тады дадаць цукінію і тушыць. Памыць памідоры, нарэзаць іх, разварыць, працерці праз сіта, загусціць мукою, перамяшаць са стушанай гароднінай, дадаць солі і перцу, перамяшаць з сэлерам. Закіпяціць, астудзіць, вылажыць на талерку і пасыпаць пасечанай зялёнай пятрушкай. Падаваць страву халоднай у якасці дадаткаў да мясных ці рыбных страў, а таксама да яек, каш і макарону.

**ПАНІРАВАНАЯ ЦУКІНІЯ**

На 60 дэкаў цукініі ўзяць 2 яйкі, 2—3 лыжкі мукі, 10 дэкаў сцертай булкі, соль, перац, вострую папрыку ў парашку, 10 дэкаў шмальцу.

Цукінію памыць, абсушыць. Нарэзаць яе скрылёчкамі таўшчынёю каля 1 см, пасыпаць перцам і прыправай „Кары". Яйкі памыць, абсушыць іх, выліць са шкарлупіння, крыху збіць відэльцам. Скрылёчкі цукініі мачаць у прасеяную муку, перамешаную з соллю, а тады ў збітыя яйкі і сцертую булку. Класці на патэльню з разагрэтым шмальцам і смажыць з абодвух бакоў.

**Гаспадыня**




Пазнаёміліся мы, калі былі студэнтамі. Якраз была забава ў студэнцкім клубе. Я тады быў студэнтам IV курса універсітэта, а яна вучылася на другім курсе медінстытута. Цэлыя чатыры гады мы былі неразлучнымі сябрамі і нікому нават не ўяўлялася, што ў будучыні не будзем разам. Зрэшты, мы ўжо нават вельмі канкрэтна запланавалі сваю будучыню: шлюб возьмем, калі б мая дзяўчына зацяжарыла. А калі не, калі ўсё абыдзецца, дык і няма чаго спяшацца. Трэба ж было б найперш крыху абжыцца. Я закончыў вучобу першы і стаў на працу. Мяне пакінулі працаваць ва універсітэце. Праз год скончыла вучобу мая дзяўчына, адбыла практыку і пачала працаваць у бальніцы. Мы надалей сустракаліся, хаця не жылі разам. І я і яна жылі на сваіх старых, нанятых кватэрах, бо ні яе, ні мае гаспадары не згаджаліся на тое, каб мы жылі ў кагосьці ўдваіх, разам. Матэрыяльная сітуацыя была цяжкая, але найгорш было з кватэрай.

І тут надарылася аказія, каб крыху зарабіць. Маёй дзяўчыне запрапанавалі выехаць на два гады на работу ў Афрыку, дзе яе бальніца абслугоўвала адно мястэчка. Мы падумалі, што гэта будзе для нас вялікі шанц. Заробіць вось крыху грошай — і пабудуем мы сабе дом. Будзе дзе жыць і тады нарэшце возьмем шлюб, будзем радзіць дзяцей і будзе ўсё ў нас па-людску. Мы пагаварылі з маімі і яе бацькамі, але на пачатак згадзіліся дапамагчы нам у будове дому толькі мае бацькі. Дзяўчыніны бацькі сказалі, што калі будзем мужам і жонкай, то яны памогуць ахвотна.

І так мы пачалі будову дома толькі пры дапамозе маіх бацькоў. Праз паўгода мая дзяўчына выехала працаваць за граніцу. Першыя месяцы прысылала ўсе грошы, якія толькі магла прыслаць. Домік наш рос на вачах і цешыў маё вока. Усё, што мог, я рабіў сам, усё ж будзе танней, думалася. Пасля грошы сталі прыходзіць менш рэгулярна і выразна сталі змяншацца сумы. Я занепакоіўся. Пачаў пытаць таго-сяго (сярод тых, хто ў тую Афрыку ездзіў), што там дзеецца, і так паволі даведаўся, што ў маёй дзяўчыны завёўся там новы нарачоны. Я перажыў гэта страшэнна. Яна не прызнавалася да нічога, тады я вырашыў праверыць гэта сам. Папрасіў, каб сябра прыслаў мне адтуль запрашэнне (ён таксама лекар), і знянацку прыехаў да яе. Сэрцайка! Лепш бы я туды не ездзіў. Вядома, жыла з чалавекам, зусім не крыючыся. Сэрца маё разрывалася, але дахаты я вярнуўся з нічым. Горш таго, застаўся ж каркас хаты. Што з ёй цяпер рабіць? Мая дзяўчына не толькі адмовілася фінансаваць далейшую будову, бо не бачыць нашай супольнай будучыні, але і запатрабавала ад мяне звароту прысланых грошай. Што рабіць? Мо варта памяняць гэтую распачатую будову на нейкую кватэру, мо яшчэ даплацяць, дык аддам даўгі?

**Антон**

Антон! Калі кахаў, дык трэба было жаніцца. Жыццё па заказу не заплануеш і па заказу сэрцу не будзеш мілы. Але ты суніміся! Пагавары з бацькамі, мо яшчэ раз дапамогуць, на гэты раз — звярнуць даўгі. А будзе каркас, знойдзецца і дзяўчына. Мо іншая будзе з дому заможная...

**Сэрцайка**




Сніцца мне невялікая вішня. На ёй былі вельмі чырвоныя вішні, а я іх зрывала. Пазрывала ўсе, гляджу, а на галінках — адно пры другім — растуць семечкі з гарбуза. Памятаю толькі, што два семечкі я сарвала, а да трэцяга толькі дакранулася.

Думаю, што мой сон ужо спраўдзіўся. Родны брат маёй братовай і яго адзін калега загінулі, а другі калега — у бальніцы, яго стан таксама няясны.

**Валя**

Валя! А твой сон абазначаў бы цалкам што іншае. Чырвоныя вішні гэта было б нейкае злачыннае каханне, нейкая тайная сувязь з мужчынам. А семечкі з гарбуза абазначалі б для цябе дабрабыт і прыбытак. Хто ведае, што праўда, але ж сон датычыўся цябе, а не тваёй братовай.

**Астрон**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ШКОЛА!

**1 верасня. Першы школьны званок у новым навучальным годзе!**

**Школа вітае нас адчыненымі вокнамі, сардэчнымі ўсмешкамі настаўнікаў, радаснымі тварамі сяброў! Вітай, школа!**

**Пачынаецца новы школьны год. Што ён нам прынясе? Напэўна, новыя веды, новых сяброў. Мы ж на год пасталелі, перайшлі ў новыя класы. Колькі новага, цікавага ў свежых, новенькіх падручніках!**

**Зноў сядзем за парты, гатовыя падарожнічаць па краіне ведаў за сваім правадніком-настаўнікам.**

**Шчаслівай дарогі ў гэтую чароўную краіну.**

**Не забывайцеся і пра вашу газетку. Яна хоча падарожнічаць разам з вамі. Чытайце „Зорку“. Пішыце да нас у рэдакцыю. Раскажыце, як правялі лета, што пабачылі, з кім пазнаёміліся, як прыняла вас школа, хто займеў новых добрых сяброў і знаёмых. Пішыце. „Зорка“ чакае ад усіх дзяцей вестачак.**

**Няхай мы зноў будзем разам — у гульні і ў вучобе.**

**Жадаю ўсім пяцёрак — моцных, пэўных, з плюсам і з кропкай. А тожа ў будучыні — і шасцёрак, калі так вырашаць дарослыя.**

**„ЗОРКА“**

Васіль Жуковіч

### ІДЗЕ ВУЧАНІЦА

*У школу вучыцца*
*ідзе вучаніца.*
*Ёй сонейка свеціць*
*іззяюць крыніцы.*

*Ёй дрэвы гамоняць.*
*Ідзе вучаніца*
*у Ведаў Краіну,*
*у свет таямніцаў.*

*Ёй так падабаецца*
*з кніжкамі ранец!*
*Яна ўжо вучылася*
*некалькі раніц.*

*З настроем цудоўным*
*ідзе вучаніца.*
*На твары — усмешка,*
*і позірк іскрыцца.*

*Як ветразі, банцікі*
*ў мілай дзяўчынкі,*
*а косы, а косы —*
*як дзве ручаінкі.*

*Як хочацца верыць*
*у светлы дзень гэты:*
*дзіцячае шчасце*
*не спаляць ракеты!*



**Удзельніцы дэкламатарскага конкурсу са школы № 3 у Бельску. Фота Я. Чэрнякевіч.**

Першага верасня Алесік пайшоў у школу. Ён надзеў новы касцюм, белую кашулю, абуў новенькія, аж блішчаць, чаравікі. Гэта быў ужо не гарэза-хлапчук, а вучань першага класа Алесь Кавалёнак, сур'ёзны і заклапочаны.

З таго дня кожную раніцу Цюпка праводзіў Алесіка да па вароту, за якім ужо відаць была школа, і сумны вяртаўся назад. Без гаспадара двор здаваўся пусты і маўклівы.

Кароткі восенькі дзень здаваўся Цюпку вельмі доўгім. Праводзіўшы Алесіка ў школу, ён

Марыя Філіповіч

## Алесік ідзе ў школу

І Цюпка адразу адчуў гэтую перамену. Ён ціха сядзеў пад крэслам, не зводзячы з сябра сумных вачэй, пакуль той чысціў зубы, апранаўся, перабіраў кніжкі ў партфелі.

Разам выйшлі з хаты. Алесік з кветкамі ў руках, і мама ішлі паперадзе, а Цюпка плёўся ззаду.

Нарэшце Алесік азірнуўся, і Цюпка, узрадаваны, кінуўся да яго.

— Ідзі назад, Цюпка, — строга загадаў хлопчык. — Цябе ў школу не пусцяць.

Цюпка спыніўся і вінавата апусціў галаву. А калі праз хвіліну хлопчык зноў азірнуўся, Цюпка ўсё гэтак жа труха ўслед.

— Дурненькі ты, Цюпка, — пагладзіў шчанюка Алесік. — У школу сабак не пускаюць. Разумееш?... Я хутка прыйду дамоў, і мы з табою зноў будзем гуляць. Вось пабачыш... — паабяцаў хлопчык.

залазіў пад ганак, то спаў, то глядзеў на дарогу, каб не прапусціць, калі на ёй з'явіцца знаёмая маленькая постаць хлопчыка.

Аднойчы ён расплюшчыў вочы і ўбачыў каля самых веснічак незнаёмага сабаку. Поўсць на ім была мокрая, злямчаная, хвост падцяты, на ашыйніку вісеў абарваны ланцуг. Цюпка адразу зразумеў, што гэта валацуга, і што найпершая яго, гаспадара, задача — прагнаць вон бадзягу са свайго прыстойнага двара. І ён, сярдзіта брэшучы, выскачыў з-пад ганка, хоць у яго самога сэрца так і замірала ад страху. А што, калі гэты бадзяга агрызнецца?

Але сабака не агрызнуўся. Ён пастаяў каля веснічак, нібыта і не чуў, як захлёбваўся ад брэху гэты сыты і дагледжаны шчанюк, зазірнуў на чужы двор і патрухаў у бок вёскі. Асмялелы

(Працяг на стар. 10)

Якуб Колас

### ГУСІ

*Гусі, гусі, вырай вольны!*
*Сумен крык ваш, гусі:*
*Леціцё вы ў свет раздольны*
*З нашай Белай Русі.*

*Засмуткуюць зноў балоты*
*Без вас, госці лета.*
*Занудзяцца, як сіроты,*
*Лозы там да свету.*

*Бабыль-вецер на світанні*
*Пойдзе ў свет шырокі,*
*Пайдзе ў злосці, буркатанні*
*Аглядаць валокі.*

*А вы, гусі, пад аблокі*
*Крыллямі ўзмахнеце,*
*Каб не бачыць, як асокі*
*Гне і ломіць вецер.*

*Што ж? Ляціце — для свабоды*
*Вам і крыллі служаць...*
*Толькі ж шкода чагось, шкода —*
*Па вас далі тужаць.*

*І гарue сіратліва*
*Ў чырвань лес адзеты...*
*Ой вы, гусі! Паняслі вы*
*За сабою лета!*

Васіль Хомчанка

### ЦВІК

Ішоў Вася па вуліцы і знайшоў цвік. Цвік быў новы, бліскучы.

Пахваліўся знаходкай суседскай Тані.

— А я цвік знайшоў, во!

— Дай мне, — папрасіла яна.

— А навошта табе? — спытаў Вася.

Яна і не ведала, навошта ёй такі цвік. Гэта ж не лялька, з якой можна гуляць.

Вася падышоў да трактарыста, які нешта ладзіў у трактары.

— Дзядзька, я цвік знайшоў. Не вы згубілі?

— Не, не мой, — адказаў трактарыст. — Гэта, відаць, дзед Іван згубіў. Ён сёння купляў цвікі ў магазіне.

Вася пайшоў да дзеда Івана. Дзед рабіў новыя вароты. Яны ляжалі на зямлі, а дзед прыбіваў да іх дошкі такімі ж, як у Васі, цвікамі.

— Дзед Іван, я на вуліцы цвік знайшоў.

Дзед узяў у Вані цвік, прымераў са сваім.

— Такі, як мой. Можа, і згубіў, калі нёс.

— Дык вазьміце сабе, — сказаў Вася.

— Што ж, дзякуй, спатрэбіцца.

Дзед прыставіў той цвік да варот і трохі ўбіў яго ў дошку. Даў малаток Васю і сказаў:

— Забі ты.

— Малайчына, — пахваліў дзед Васю, — выручыў цвік.

— Ага, калі б не ён, то адна дошка ў варотах была б не прыбіта.

Вася забіў.

— Моцна будзе трымаць дошку, — радаваўся ён, — не адарвецца.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Алесік ідзе ў школу

(Працяг са стар. 9)

Цюпка выскачыў за ім, але гнацца далей не адважыўся. Ён чамусьці зусім не радаваўся сваёй перамозе. А потым, нечакана для сябе самога, падаўся следам за сабакам. Сабака дабег да першай хаты, звярнуў на загуменне і прапаў з вачэй.

Цюпка, мітуслівa абнюхваючы сляды, паскорыў бег і ледзь не наткнуўся на бадзягу за старым склепам на кучы леташняй саломы. Ад нечаканасці і страху ён прыпаў на пярэднія лапы і лісліва замахаў сваім пушыстым абаранкам. Чужынец спакойна, без усялякай варожасці, але і без зацікаўлення, глядзеў на шчанюка. Яго сумны погляд быццам гаварыў: „Ну, чаго ты тут не бачыў? Галоднага і бяздомнага валацугу? А што мне рабіць, калі свайго дома ў мяне няма? Ісці мне няма куды...“

Цюпка глядзеў на чужынца з вялікім разуменнем і спачуваннем.

* ✲ *

У той дзень тата з мамаю прыйшлі з работы разам.

— Што гэта за страшыдла ў нас на дварах? — яшчэ з парога сярдзіта запытала мама. — Каб не бацька, я не адважылася б зайсці ў двор. Гэта ты прывёў яго?

— Не, не я, Цюпка...

— Як гэта — Цюпка?...

— Не ведаю як, — пацiснуў плячыма хлопчык. — Толькі яны пасябравалі...

— Не хапала мне яшчэ бадзяжных сабак, — зазлавала мама.

— Гэта не бадзяжны сабака, — не згадзіўся тата. — У яго добры скураны ашыйнік. Відаць, адарваўся і збег з дому.

— Сабака гэты чужы, — незлюбіла іхняй размовы мама. — І няхай ідзе да сваёй хаты.

— Мама, а можа ён не ведае дарогі?

— Усё, даволі! — строга сказала мама. — Каб я пра гэтага сабаку болей не чула.

Увесь вечар мама была не ў гуморы, і Алесік з татам таксама сядзелі моўчкі.

Калі сабраліся вячэраць, мама сказала:

— Ну вось, Цюпкі няма... Ніколі раней ён так позна не гуляў. Таксама зробіцца бадзягам.

Але Цюпка ўжо скробся ў дзверы і, як ускочыў у пакой, вінавата пашыўся пад крэсла. Ён неахвотна пахлябтаў супу, а костачку занёс да сябе ў куток і пільна сачыў, каб яе не выкралі каты.

Калі павячэралі, Цюпка, нягледзячы на позні час, раптам заспяшаўся на двор. Ён жаласна папіскваў пад дзвярыма, а калі мама не вытрывала і падышла, каб прагнаць яго на месца, дык убачыла ў зубах у Цюпкі костачку.

Яна моўчкі выпусціла шчанюка.

— Ты не бачыў, сынок, недзе ў калідоры стаяла міска, у якой мы калісьці кармілі Анціпку?... Ідзі прынясі...

Хлопчык куляй вылецеў у калідор. Мама ўздыхнула:

— Хто яго ведае, калі гэты сабака еў...

**(Урывак з кнігі „Пра Алеся і яго сяброў“)**

## Пішуць школьнікі

**Паважаная рэдакцыя!**

Мяне завуць Паўлік Бурэй. Я вучань пятага класа. Жыву ў горадзе Мінску. Ведаю родную мову.

У вольны час займаюся будаўніцтвам мадэляў — машын, ракет, таксама захапляюся збіраннем і камплектаваннем паштовых марак, разам з бацькамі і братам Арцёмам падарожнічаем.

Я ўпэўнены, што ў Польшчы знойдуцца сябры, падобныя на мяне. Буду чакаць пісем ад новых сяброў.

БССР, 220140, г. Мінск, вул. Прытыцкага, 106-544. Паўлік Бурэй.

*ДАРАГАЯ „ЗОРКА“.*

*Мяне завуць Марцін Лаўрашук. Вучуся ў пятым класе. Жыву ў вёсцы Новае Ляўкова. Калі будуць да мяне пісаць дзеці з Польшчы, дык могуць пісаць на сваёй роднай мове. Я збіраю маркі, значкі і плакаты. Надрукуй, калі ласка, „Зорка“, мой адрас. Вось ён:*

**Ławreszuk Marcin**
**Lewkowo Nowe, 50**
**17-221 Lewkowo Stare**
**woj. B-stok**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Адшукай лік, напісаны тройчы.




## БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР

**(Да 500-годдзя з дня нараджэння)**

— 8 —

І вось пад зіму 1504 года Францішка Скарыну можна ўбачыць у Кракаўскім універсітэце.

Кракаўскі універсітэт быў вядомы сваімі выдатнымі вучонымі — астраномамі, матэматыкамі. З паў-Еўропы сцякаліся сюды шкаляры. Асабліва шмат было з Венгрыі, Нямеччыны, Чэхіі. Гэтыя студэнты мелі тут нават свае асобныя бурсы-інтэрнаты. Дарэчы, з запісаных у 1504 годзе разам з Францішкам новых студэнтаў 150 былі іншаземцы.

Папулярнасці універсітэта спрыяла тое, што ён, як на той час, быў даволі дэмакратычны. Палову яго выхаванцаў складалі дзеці рамеснага і гандлёвага люду; дзяцей сялян вучылася тут аж да 10 працэнтаў, што было „незвычайна шмат“ у параўнанні з тагачаснымі такімі ж установамі феадальнай Еўропы.

Вось Францішак Скарына ўжо студэнт. Паступаючы, трэба было ўнесці 8 грошаў. Баронскі ці княжацкі сынок або проста багаты шляхціц над гэтым не задумваўся. Але з пяці шкаляроў, якія запісаліся ва універсітэт у зімовае паўгоддзе 1504 года з тэрыторыі сённяшняй Беларусі, толькі адзін князь Павел з Гарадзеншчыны заплаціў такую суму. А Вінцук са Слуцка, Георгій з Ваўкавыска, Мікалай з Ашмян не змаглі.

Францішак, напрыклад (гэта паказваюць захаваныя дакументы), унёс у чатыры разы меншую плату — 2 грошы. З гэтага самі можаце меркаваць, што дастатак Скарынавай сям'і быў невялікі, і хлопцу давялося спасылацца на сваю беднасць, каб яму зменшылі ўступную плату.

Ці вялікая плата была гэтыя два грошы? Мяркуйце самі: за грош у тыя часы можна было купіць 32 яйкі або гусь. Два грошы каштавалі добрыя чаравікі.

На рагу вуліц Віслeнскай і Галубінай стаяў дом — бурса для бедных. Тут найчасцей знаходзілі сабе прытулак шкаляры з Вялікага княства Літоўскага. Сюды і прывёў Скарыну і яго сяброў палацкі старшакурснік.

У бурсу трэба было ўнесці 60 грошаў уступных і, апрача таго, плаціць штотыдня два грошы за начлег і сталаванне, а таксама адзін грош сеньёру бурсы. Толькі тады студэнт мог разлічваць на месца ў пакойчыку.

Пацяклі падобныя адзін на аднаго студэнцкія дні.

Выкладчык узыходзіў на кафедру, разгортваў кнігу і пачынаў чытаць. Слова „лекцыя“ і паходзіць ад лацінскага „лекто“ — „чытаю“.

Усе веды ў тыя часы дзялілі на мастацтва і навукі. Да навук адносілі багаслоўе, права, медыцыну. А ўсіх мастацтваў, або, як іх яшчэ называлі, вызваленых навук было сем: граматыка, рыторыка, дыялектыка, арыфметыка, геаметрыя, музыка і астраномія.

І вось настаў дзень — 13 снежня 1506 года, які павінен быў паказаць, на што здатны новы кандыдат на бакалаўра філасофіі.

Францішак адказваў з бляскам. Любоў да старажытнай паэзіі выяўлялася ў яго прыгожай, музыкальнай латыні, грунтоўнае веданне філасофіі — у красамоўных, сціслых, трапных адказах, — сапраўды саюз навукі і паэзіі.

Цяпер ужо Францішак бакалаўр. І хоць сам яшчэ далей вучыцца, але ўжо мог адначасна і вучыць у школах, якія належалі універсітэту.

**(Працяг будзе)**

**(З кнігі А. Клышкі „Францыск Скарына“)**

## Вершы Віктара Шведа

### ПЕРШАКЛАСНІК

Першакласнічак з занятках
Прыйшоў злосны, невясёлы.
Адазваўся ён да маткі:
— Не пайду ўжо больш у школу.

Я ж чытаць яшчэ не ўмею,
Размаўляць не можна ўволю.
Дык у чым жа тут надзея?
Што рабіць я маю ў школе?

### ПУСЦІ МЯНЕ НА ДВОР

З просьбаю да маці
Звяртаецца Рыгор:
— З дзяцьмі пазабаўляцца
Пусці мяне на двор.

Ты, дарагая мама,
Напружвай слых і зрок,
Каб я адтуль часамі
На вуліцу не ўцёк.

### НА ЧЫМ ДЗІРКА?

Мама сварыць Жэню:
— Дзе ж ты хуліганіў?
Дзірка на калене,
Цалкам абадраны!

Гарэзлівы Жэня
Стаў яшчэ дражніцца:
— Ды не на калене,
А на нагавіцах!

### НЯМА Ў МЯНЕ ЎНУЧКІ

— Пачытай, бабулька,
Мне ніяк не спіцца.
— Ты чытаць, Ганулька,
Магла б навучыцца.
І ўзяла малая
Кніжку ў свае ручкі:
— Каму ж пачытаю?
Няма ў мяне ўнучкі.

### А ДЗЕ Ж ГАЛАВА?

У парку між дрэў
Малы Яраслаў
Лысага сустрэў
І яго спытаў:
— Я гляджу ўвесь час,
Не ўгадаць, хоць рэж!
Лоб ды лоб у вас,
Галава дык дзе ж?

### ПЕРШЫ ВУЧАНЬ У КЛАСЕ

Пытаецца Валодзя:
— Скажы ты мне, Мікола,
Чаму ты стаў прыходзіць
Раней за ўсіх у школу?
— Бабуленька падарак
Мне купіць нечакана,
Як споўню яе мару:
Першым у класе стану.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Suraska 1, „Зорка“.

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## НА АПОШНЯЙ ВЯРСЦЕ

*Верш С. Грахоўскага*
*Музыка Я. Магаліфа*

Позні мой вечар, як ціхая восень:
Долу злятаюць, злятаюць лісты.
Гэта — пара і жніва, і дакосін
Каля апошняй, апошняй вярсты.

Сонца заходзіць. Плыве павуціна.
Ціха і пуста ў палях,
І на замярканні журбой жураўлінай
Млечны гайдаецца Шлях.

*Прыпеў:*
Дзе мая радасць? Дзе маё гора?
Дзе мая папараць-кветка цвіце?
Можа, калісьці, а можа, учора
Звяла яна на апошняй вярсце.

Не адшукаў яе, не дачакаўся...
Падаюць восенню зоры часцей.
Як ні гукаў я, не дагукаўся
Шчасця свайго на апошняй вярсце.

Сонца заходзіць. Плыве павуціна,
Ціха і пуста ў палях.
І на змярканні журбой жураўлінай
Млечны гайдаецца Шлях.

*Прыпеў.*

ПАВОЛЬНА

# НІЎКА

— *Не апускайце носа, ваша прападобнасць. Хутка мы вас паставім на калені.*

699
Паэт, які лічыць, што яго вершы найлепшыя, знаходзіцца на дарозе, што вядзе яго да дрэннай паэзіі.

700
Пішучы літаратурны твор, увесь час шкадую чарніла, бо толькі ў кароткасці праяўляецца геніяльнасць.

701
Калі хтосьці прывыкне жыць пад чужым капытам, таму цяжка жыць пад родным небам.

702
Будзь крытычны ў адносінах да свайго крытыцызму.

703
Кожная пераможная рэвалюцыя становіцца з часам контррэвалюцыяй.

704
Сітуацыя, у якой людзі ўстаюць, пабачыўшы палітычнага дзеяча, давядзе да таго, што многія з іх будуць пасаджаны.

705
Калі будзеш глядзець на свет праз прызму ўласнай дасканаласці, дык будзе ён табе заўсёды недасканалым.

706
Грошы, якія пазычаеш — лёгкія, а тыя, якія звяртаеш — цяжкія.

707
Калі б чалавек зразумеў сэнс усяго, тады яго жыццё страціла б сэнс.

**Алесь Барскі**

## АБ ХОДЖЫ НАСРЭДДЗІНЕ

### КАЛІ КАНЕЦ СВЕТУ

Адзін багач спытаў у Ходжы Насрэддзіна:

— Вы вучоны чалавек, дык скажыце, ці ведаеце, калі пачнецца канец свету?

— А як жа, ведаю! — сказаў Ходжа. — Канец свету пачнецца на другі дзень пасля вашай смерці... калі наследнікі пачнуць дзяліць вашае багацце!

### ЯКОЕ ПЫТАННЕ, ТАКІ АДКАЗ

Даведаўшыся, што ў Ходжы ўкралі ішака, усе калегі і знаёмыя прыйшлі яго наведаць і паспачуваць. Трэба было пачаставаць гасцей і гэта каштавала ў дзесяць разоў даражэй, чым прапаўшы ішак. Надабавак адзін з гасцей стаў задаваць розныя пытанні:

— Эфендзі, вашага ішака ўкраў адзін злодзей, ці было іх некалькі? Злодзей сеў верхам, ці павёў ішака на павадку? Калі выходзілі за вароты, ішак ступіў спярша левай ці правай нагой?

— Дарагі госць, — сказаў Ходжа, — калі ў мяне наступны раз будуць красці ішака, то я вас паклічу раней і вы ўсё ўбачыце сваімі вачамі.

### СВЯТЫЯ

Ходжа паехаў у Самарканд і наведаў мулу, які вельмі добра ведаў гісторыі святых і без канца іх расказваў. Пры гэтым забыў пачаставаць госця чаем. Прагаладаўшыся, Ходжа доўга слухаў і на канец запытаў:

— А ці святыя, аб якіх вы расказваеце, калі-небудзь елі?

### ПАПРОБУЙЦЕ САМІ

Аднойчы Ходжа зваліўся з даху. Зараз жа сабраўся натоўп народу.

— Што здарылася, эфендзі? Чаму вы ляжыце на зямлі і не паднімаецеся?

— Чаму я ляжу і не ўстаю? Папробуйце самі з даху зваліцца — тады зразумееце!

1

2

### КАЛІ СПРАВА ЧАКАЕ

Муж і жонка адыходзяць з гасцей дадому. Гаспадары просяць іх пабавіцца яшчэ. Муж гатовы згадзіцца, але жонка рашуча запярэчыла:

— Не, няма часу. Дома нас чакае доўгая сварка.

Януць Малец

### НА ВЫСОКІМ КРЭСЛЕ

На высокім крэсле,
На манументальным,
Чалавек расселся
Моцна, капітальна.

На высокім крэсле,
Ды яшчэ на мяккім,
Неўпрыкметку стаў ён
Злосны, як сабака.

Да яго заходзіш
Часам з прывітаннем,
А ў адказ нясуцца
Брэх і завыванне.

Доўга завываў ён,
Не баяўся буры,
Кажуць дзесьці лапу
Меў у верхатуры.

Толькі раз па звычцы
Зарапартаваўся
І з міністрам важным
Брэхам прывітаўся.

І зваліўся з крэсла,
Гонару не стала...
А на крэсле — новы
Гаўкае брахала.


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"

ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty na 1990 r.:

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.

2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.

3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.

4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1990 r. upływa 20 sierpnia 1990 r. włącznie.

5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.

6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— wrzesień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 1143/90.


© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020